РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

КОШТ 1 РУБЕЛЬ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №44, 16 ЛІСТАПАДА 1992 ГОДА.

СЁННЯ:



Апошні прытулак караля



■ стар. 4 — 5

Амерыканскі сацыёлаг і філосаф Элвін ТОФЛЕР. «Трэцяя хваля»

■ стар. 6

«Запланаванае пірацтва». Па слядах адной публікацыі

■ стар. 3

Вы калі-небудзь бачылі сапраўдныя бортні? Не?.. Ну, тады глядзіце. Ужо не адзін век гэтыя калоды частуюць людзей мёдам.

Фота Аркадзя БІРЫЛКІ.

ПАДЗЕІ ВЕСТКІ КАМЕНТАР

## *СУСТРЭЛІСЯ Ў ВІЛЬНІ*

9-10 лістапада дэлегацыя беларускіх дзеячаў культуры і мастацтва на чале з першым намеснікам міністра культуры У. Гілепам абмеркавала ў Вільні праект пагаднення па культурнаму супрацоўніцтву паміж нашымі краінамі. У гэтай працы з літоўскага боку ўдзельнічалі міністр культуры і асветы Д. Куоліс і намеснік міністра К. Плацяліс. Падпісанне пагаднення чакаецца ў снежні.



# ЦЯЖКА БЫЦЬ АПТЫМІСТАМ

Днямі паціху і неяк неўпрыкмет краіна адзначыла ці не юбілей кастрычніцкага перавароту. Яшчэ напярэдадні, быццам апраўдваючы «нескароных», саўмінаўскі друк разрадзіўся цэлай серыяй матэрыялаў пра ролю Вялікага Кастрычніка для нашай краіны, пра тысячы людзей, якія ўсе свае спадзяванні і мары звязвалі з гарматамі «Аўроры», пра гісторыю, з якой старонку не выкрэсліш і г.д. і да т.п.

Што ж, мітынгі і дэманстрацыі ці не ў кожным з гарадоў Беларусі сцвердзілі, што аматараў узброенага вырашэння ўсіх праблем і прыхільнікаў класавай барацьбы яшчэ ўга колькі. Гэта і не дзіўна, і спрачацца з гэтым неяк не выпадае, улічваючы колькасць пенсіянераў і старых у Рэспубліцы Беларусь. Грамадская свядомасць наогул вызначаецца вялікай ступенню кансерватыўнасці. Людзі прывыклі на «кастрычніцкія» біць вепрукоў у вёсках, выпіваць сто грамаў «за свята» і наогул адгуліваць два законныя выхадныя дні. Іншая справа, што рабілася ўсё гэта нават у самыя «застойныя» часы без аніякай ідэалагічнай падаплёкі. І сённяшнія спробы рэанімацыі класавай расфарбоўкі гэтага лістка календара выглядаюць не толькі не салідна, але і не сумленна.

Ну, як мне, чалавеку, які не зусім страціў памяць і ведае, хто мае падаўляльную большасць у саветах усіх узроўняў і структурах выканаўчай улады, спакойна чытаць улётку таварыша Ляпёшкі, якую пошта ласкава падкінула ў маю скрынку: «Не нас ли обманули и отняли власть... демагоги, приспособленцы, откровенные грабители и предатели? Не настала ли пора восстановить власть Советов?»

Першы сакратар Мінскага гаркома КПБ выдатна разумее двухсэнсоўнасць сваіх заклікanняў.

І можна было б сапраўды памяркоўна і са смехам паставіцца да заклікаў «сохранить Союз Советских Социалистических Республик», каб не адно але.

Саюза больш не існуе, спадары камуністы. Вы жывяце ў незалежнай дзяржаве, і партыя ваша аб'ядноўвае камуністаў менавіта гэтай дзяржавы. Вакол вас таксама суверэнныя краіны, паўнамоцныя прадстаўнікі народа ў якіх з усёй сур'ёзнасцю сцвердзілі сваё жаданне мець межы, волю, самастойнасць. Улічваючы ваш гістарычны вопыт, а таксама вашыя метады і спосабы дасягнення мэтаў, заявачкі пра «сохранность» СССР не могуць не насцярожваць.

Ды больш таго. Ваш ідэйны сабрат з Расіі спадар Алксніс не хаваючыся заяўляе па тэлебачанню літаральна наступнае: «Да сценкі ставіць не будзем, але тых, хто развaліў Саюз, мы моцна пакараем». Карныя меры «розуму і гонару нашай эпохі» вядомыя ўсяму свету, і робіцца сапраўды вусцішна, калі прыгадваеш палітычныя прыхільнасці сённяшніх органаў дзяржаўнай улады.

Гэтая ўлада самым канкрэтным чынам днямі заявіла, што з палітычнай сцэны сыдзе не раней 1994 года. Патрабаванні рэферэндуму былі з лёгкасцю адкінуты на той падставе, што ў нейкай частцы падпісных лістоў знойдзены памылкі.

Мноства прыгожых слоў пра верхавенства закону было з пафасам вымаўлена з трыбуны Вярхоўнага Савета. Мноства разоў то адзін, то другі дэпутат прыпамінаў прававы характар дзяржавы. І ў выніку вельмі простым чынам вырашылі, што незаконна жадаць змены ўлады, незаконна патрабаваць новых выбараў, што ў прававой дзяржаве не бывае парламенцкіх крызісаў. Большасць Вярхоўнага Савета натуральным чынам палічыла, што іх жаданне застацца ля руля дзяржавы куды больш законнае, чымсьці патрабаванне ЗАКОННАЙ колькасці ЗАКОННА афармленых галасоў у падтрымку рэферэндуму.

Цяжка сёння апазіцыі. Сумна ўсведамляць, што твае прапановы не будуць выслуханы, што твае праекты не будуць зацверджаны. Немагчыма працаваць, ведаючы, што плёну ад твае працы няма. Маральна невыносна слухаць і чытаць той бруд, якім цябе палівае паслухмяны «дзяржаўны» друк. Прыкра ўсведамляць, што змяніць нешта, не марнаваць дарэмна час у перыяд станаўлення дзяржавы няма магчымасці. Вельмі складана застацца ў такой сітуацыі аптымістам, вельмі нялёгка верыць у лепшае, у светлае будучае беларускай дзяржавы і беларускасці.

Цяжка не паддацца песімізму, але неабходна. Народ мае вопыт жыцця ў Саюзе. Мы памятаем, што такое таталітарызм. Мы пабачылі, як жыве свет, і жадаем жыць так, як таго варты цывілізаваны чалавек. У людзей, і ці не ў першую чаргу дзякуючы «нескароным», выпрацавалася фізіялагічная алергія да ўсялякіх гарматных стрэлаў, нават калі гарматы з легендарнай «Аўроры». Няма больш той паслухмянай і маўклівай нацыі. Беларусы звeдалі, што такое воля, і, займеўшы бел-чырвона-белыя дзяржаўныя крылы, ужо не згодзяцца на мусульманскую зялёную паску на сваім сцягу.

Ёсць такі анекдот. Не надта прыгожы, але даволі дакладны. Уварваліся неяк у вёску бандзюгі. Папалілі дамы, пакрушылі маёмасць, пазабівалі жыхароў. А вярнуўшыся на наступны дзень, пабачылі, што ўсе жывыя і зноў адбудоўваюцца. «Беларусы, як так?» — «А мы думалі, што так і трэба, вось і выжылі».

Сімвалічны анекдот. Цяпер ужо мы дакладна ведаем, як трэба, а таму і выжывем. Несумненна.

Максім ГІЛЕЎСКІ.

# ЦІ СТАНЕ МІНСК МУЗЫЧНАЙ МЕККАЙ?

*Якое мітуслівае наша жыццё! Пануюць грошы, скрозь чэргі, гвалт. Былы савецкі чалавек даўно заблудзіўся сярод гэтых трох сухіх соснаў. Ён не адчувае ні свайго мінулага, ні сваёй будучыні. Ён не ўсведамляе сябе ні як суб'ект нацыі, ні як асоба сусветнага вымярэння. Ён нібыта выкрэслены з касмічнага сумоўя народаў, з прасторы агульнага Духу, які яднае ўсе здабыткі і каштоўнасці культур свету.*

*Так ёсць і так будзе, калі мы не выберамся з гэтага тлуму.*

*Кожны вольны выбіраць сваю выратавальную крыніцу. Але мне асабіста бліжэй тыя, для каго немагчыма існаванне без высокага мастацтва.*

*Менавіта таму я запрашаю вас у адзін з нашых нацыянальных культурных цэнтраў — Беларускую дзяржаўную філармонію, у сценах якой заўсёды пануе атмасфера ўзнёслай музыкі.*

*Гасцінны гаспадар, мастацкі кіраўнік філармоніі, музыкант Юрый ГІЛЬДЗЮК — наш суразмоўца.*

**—Прыемна заходзіць у будынак, дзе адразу забываюцца штодзённыя клопаты, і хочацца чуць і гаварыць толькі пра цудоўнае. Хаця, Вам, пэўна, хапае тут усялякіх праблем?**

—Як і кожнаму па сённяшнім часе. Пытанняў шмат самых розных: і бытавых, і сацыяльных, і арганізацыйных, але ўсе мы імкнемся да аднаго — адпавядаць высокай якасці філарманічнай дзейнасці. У нас вельмі добры калектыў — ад касы да сцэны —які ўсведамляе сваю асноўную задачу: усё рабіць дзеля таго, каб канцэрт прайшоў удала і выклікаў удзячнасць слухачоў. Канцэрт — гэта вынік.

**—У вас такая насычаная канцэртная афіша. Шмат славутых імён, цікавыя праграмы. Зараз, калі развалілася адзіная размеркавальная сістэма былога СССР, як вы наладжваеце кантакты з замежнымі артыстамі?**

—Нам зрабілася значна прасцей дамаўляцца з замежнымі выканаўцамі. Не будзем забываць, што ўсе былыя саюзныя рэспублікі — таксама замежжа. Няма Саюзканцэрта, але ёсць асабістыя трывалыя кантакты. Калі раней дзейнасць нашай філармоніі распасціралася толькі да Брэста,



то цяпер перад намі ўся Еўропа і наогул увесь свет.

У нас з задавальненнем выступаюць і С.Рыхтэр, і М.Пятроў, і М.Плятнёў, і шмат іншых сусветна вядомых музыкантаў.

З 20 па 30 лістапада адбудзецца чарговы XIX фестываль «Беларуская музычная восень». Ён ужо набыў статус міжнароднага, дык паглядзіце якія імёны: З.Саткілава, Н.Гутман, Н.Шахаўская, Н.Герасімава (Расія); Х.Алтраў, П.Ласман (Эстонія); С.Шонберг (Швецыя); Дж. Марыёці (Італія); В.Тэрнэр (Англія); камерны аркестр «Санкт-Пецярбург-Камерата» пад кіраўніцтвам С.Сандэцкіса; Маскоўскі Дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам У.Мініна.

**—Славутасці, якімі можа ганарыцца самы прэстыжны еўрапейскі фестываль...**

—Мы якраз і імкнемся да таго, каб знайсці сваё месца ў свеце, і для нас вельмі важна, каб у выдатным выкананні гучала ўсё лепшае, што ёсць у агульнай музычнай скарбонцы. Таму і на фестывалі мы пачуем творы Бетховена, Баха, Моцарта, Вівальдзі, Гайдна, Гендэля, Шастаковіча, Сен-Санса, Чайкоўскага, Пракоф'ева, Эшпая.

**—А якое месца адведзена беларускім майстрам?**

—Будуць прадстаўлены нашы лепшыя калектывы. Прагучыць і музыка беларускіх кампазітараў: сімфонія В.Кандрусевіча «Плач перапёлкі», сімфанічная сюіта В.Войціка «Забавы», апрацоўкі народнай музыкі...

**—Я бачу, што праграма фестывалю такая змястоўная і аб'ёмная, што газетнай старонкі не хопіць, каб назваць усіх яго ўдзельнікаў. Таму наступнае пытанне тычыцца больш аддаленай перспектывы. Якія ў Вас планы на будучае, і, наогул, ці ёсць нейкая канцэпцыя дзейнасці Белдзяржфілармоніі?**

—У нашых складаных эканамічных умовах даволі цяжка нешта планаваць наперад. Мінімум, што мы можам, — зрабіць пэўныя накіды на адзін год. Так, напрыклад, фестываль «Мінская вясна» думаем прысвяціць 120-годдзю С.Рахманінава. Будзем праводзіць фестывалі сучаснай беларускай музыкі, джазавыя фестывалі. Планы ў нас багатыя.

Галоўнае, і я думаю, гэта важна не толькі для нас, але і для ўсёй беларускай культуры — вызначыць статус філармоніі. Ва ўсім свеце буйныя дзяржаўныя цэнтры культуры — бібліятэкі, музеі, тэатры, філармоніі — маюць статус нацыянальных. Падчас гастроляў нашых аркестраў у Еўропе іх так і аб'яўляюць. І гэта натуральна. Самастойная дзяржава павінна захоўваць нацыянальную культуру і спрыяць яе развіццю. Канешне, і зараз нас падтрымлівае дзяржава. Міністэрства культуры заўсёды прыязна ставіцца да нашых планаў і праграм. Але з вызначэннем новага статуса беларуская філармонія зможа больш аб'ёмна весці сваю дзейнасць з улікам усіх форм творча-вытворчага працэсу: добрай паліграфічнай базы для выдання рэкламных буклетаў, праграм, анатацый, навуковых прац; назапашваннем архіўнай фанатэкі, з улікам больш тэхнічна-дасканалай студыі гуказапісу і шмат іншага, неабходнага для стварэння сапраўднага цэнтра музычнай культуры. Нам ёсць на што абапірацца — усё ж за 55 гадоў створана вядомая за межамі рэспублікі выканальніцкая школа піяністаў, цымбалістаў, скрыпачоў, віяланчэлістаў. Мы маем выдатную вакальную і дырыжорскую школы. Пакуль усё гэта можна захаваць, але ці надоўга! На жаль, тыя разбуральныя працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве, перакінуліся і на культуру... Не ўсе вытрымліваюць жабрацкае становішча артыста. Напрыклад, зарплата галоўнага дырыжора аркестра — 4600 руб. Таму ёсць у нас страты —і вялікія страты. На адным энтузіязме мастацтва жыць не можа.

**—А мецэнаты? Ці, кажучы паколішняму, — фундатары?**

—Мецэнаты? Фундатары? Пакуль адзіны наш мецэнат — дзяржава. Ды і ніякім прыватным мецэнацтвам нацыянальную культуру не паднімеш. Беларусь — еўрапейская краіна. У музычным свеце да нас так, дарэчы, і ставяцца. Навошта ж нам свядома ці несвядома заганяць сябе ў правінцыйнае балота?

Працэс Адраджэння, які распачаўся ў нядаўнія часы, павінен весці нашу краіну і наша мастацтва ў свет. Мы і спрабуем у сваёй дзейнасці аб'ядноўваць нацыянальную, агульнаеўрапейскую ды іншыя культуры. У нас ёсць вельмі таленавітая моладзь — выпускнікі і навучэнцы Музычнага Ліцэя пры Акадэміі музыкі; ёсць жаданне, ёсць сілы. Але патрэбна, перш-наперш, усведамленне на высокім дзяржаўным узроўні, што без нацыянальных моцных культурных цэнтраў беларускае мастацтва загіне.

**—Я думаю, што час і дзяржаўныя інтарэсы прымусяць наш Вярхоўны Савет абараніць духоўныя інтарэсы нацыі. А Вам, Юрый Мікалаевіч, і ўсім нам жадаю, каб Мінскператварыўся ў сапраўдную музычную Мекку. Дзякуй за гаворку.**

Гутарыла Вольга ШЧАДРЫНА.

Фота Жанны МАЁРАВАЙ.

# «ГЭТА БЫЛО ЗАПЛАНАВАНАЕ ПІРАЦТВА...»



**12 кастрычніка г.г. на старонках газеты «Культура» быў надрукаваны артыкул «Свістулька пад аўтаматным прыцэлам, або Як беларусы спасцігалі арабскі рынак», у якім паведамлялася пра канфлікт паміж цэнтрам "Беларт" Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь і фірмай «Форвейз Карго», што размешчана на тэрыторыі Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Нагадаем прычыну канфлікту: больш за паўгода 100 беларускіх жывапісцаў і народных майстроў марна намагаліся вярнуць дадому ўласныя творы, якія экспанаваліся на Міжнароднай выставе Шарджа-ЭКСПО-92 і ацэньваліся ў 42 тысячы долараў ЗША.**
**Наша публікацыя выклікала шырокі рэзананс. У прыватнасці, газета «Рэспубліка» надрукавала пераказ «Свістулькі пад аўтаматным прыцэлам», падрыхтаваны «Белінфармам». Як высветлілася, тэлетайпная стужка па каналах «ІТАР-ТАСС» пад рубрыкай "крымінальная хроніка" пайшла на шматлікія краіны сусвету. Дзякуючы гэтаму, факт злачынных дзеянняў несумленных фірмаў стаў вядомы сусветнай грамадскасці, і застаецца толькі спадзявацца, што рэпутацыя іх у асяродку міжнароднага кола прадпрымальнікаў будзе сур'ёзна «падмочана».**
**Аднак, як кажуць, акрамя маральнай сатысфакцыі, беларускія мастакі ад абнародвання «смажаных фактаў» нічога не атрымалі: творы мастацтва дасюль не вернуты з Арабскіх Эміратаў. Канфлікт зацягваецца. Журналісцкае расследванне прывяло нас да новых фактаў, якія даюць магчымасць увайсці ў своеасаблівую перадгісторыю гэтага інцыдэнту. Як мы паведамлялі ўжо, у рэдакцыю звярнуўся новы сведка падзей — былы камерцыйны дырэктар фірмы «Сагіта», а сёння генеральны дырэктар фірмы «Лагода», Мікалай Канстанцінавіч Абмётка. Ягоны расказ мы запісалі на дыктафонную стужку:**

«Гэта бадай самая складаная камандзіроўка ў маім жыцці. І, аналізуючы сітуацыю сёння, зноў пераконваюся: прадухіліць тое, што здарылася, было ў той момант немагчыма. Самі ведаеце, што атрымліваецца, калі двое, вобразна кажучы, нячыста гуляюць супраць аднаго...

Гэта — запланаванае піратства! Так, так — запланаванае. Ужо ў Алма-Аце ўсё было пастаўлена ў экстрэмальныя ўмовы, вызначана загадзя. Справа ў тым, што летась фірма «Форвейз Карго» наладжвала падобную выставу-продаж у сталіцы Казахстана. Яна прайшла паспяхова: арабы прадалі тады свайго тавару недзе на пяць мільёнаў, нават больш. Адно толькі я дакладна не ведаю —у якіх грашовых адзінках вымяраецца гэтая лічба «5», у рублях ці доларах, але усё астатняе расказаў мне сам прэзідэнт «Форвейз Карго». Словам, грошы тыя ад продажу арабскай выставы засталіся на рахунку фірмы «Асіяімпекс». Забраць іх было немагчыма, бо па нейкіх прычынах банкаўскія рахункі ў Казахстане на той момант «замарозілі». Як разлічыцца з партнёрам? Выйсце знайшлося: «Асіяімпекс» вырашыла запрасіць на кірмаш у Шарджу некалькі краін СНД, паруліўшыся пра тое, каб прыбытак ад прывезеных у Эміраты тавараў адпавядаў суме запазычанасці, якую трэба было вярнуць арабам. Меркавалася, што 50 працэнтаў ад прыбытку пойдзе на пакрыццё выдаткаў, звязаных з арганізацыяй экспазіцый у Шарджы, астатняе — на доўг. Трэба сказаць, што выдаткі тыя былі мізэрныя. На нас эканомілі паўсюль, парушаючы ці не кожны пункт кантракта. Узяць хоць бы гасцініцу для перамешчаных асоб, у якой мы жылі: па сценах там поўзалі не толькі насякомыя, але і яшчарыцы. Аднак час, разлічаны на рэалізацыю тавараў, сплываў, а прададзена была толькі частка твораў жывапісу і народнага мастацтва. Вось так і з'явілася ў «Асіяімпекс» ідэя пакінуць выставачныя экзэмпляры ў якасці грашовай кампенсацыі «Форвейз Карго». І карпарацыя сваю каварную задуму здзейсніла.

На нашы прэтэнзіі прэзідэнт арабскай фірмы адказаў так: грошы, якія належаць мне, знаходзяцца ў Казахстане. Няхай вяртае іх вам генеральны дырэктар «Асіяімпекс» доктар Аль-Кейсі Іхсан. Гэтую «параду» я прыводжу амаль даслоўна... Хто такі доктар Аль-Кейсі і што такое яго карпарацыя? Я асабіста ва ўсіх яго дзеяннях бачу крамолу, за якую ён не нясе адказнасці. А кампетэнтным органам не перашкодзіла б пацікавіцца, чаму грамадзянін Ірака, якім Аль-Кейсі з'яўляецца, дазваляе сабе на тэрыторыі СНД так сябе паводзіць? Ці не таму, што ягонаму дабрабыту нічога не пагражае? Бо, са слоў аднаго з супрацоўнікаў «Асіяімпекс», ён быў жанаты на казашцы, шлюб свой скасаваў, а маёмасць перапісаў на карысць сваёй былой жонкі, словам, застрахаваўся як след. Паўтараю, гэтыя факты — не мой асабісты домысел, і калі спатрэбіцца, я магу дакладна назваць імя чалавека, які мне іх паведаміў.

Аднак мой візіт у рэдакцыю «Культуры» выкліканы зусім не тым, каб засяродзіць увагу на персоне Аль-Кейсі. Не, мая мэта —іншая.

На сённяшні дзень, і гэта пацвердзіў інцыдэнт у Эміратах, мы проста бяспраўныя. Хто нам мог на той момант дапамагчы? Пасольства Расіі? Прымусіць фірму «Форвейз Карго» вярнуць творы яно не можа, бо не ў кампетэнцыі пасольства ўмешвацца ў справы фірм не толькі іншых дзяржаў, але і сваёй. Свайго ж прадстаўніцтва ў ААЭ мы не мелі. А вырашыць станоўча гэтую праблему, прыцягнуць да адказнасці «Асіяімпекс» можна было б толькі на дзяржаўным узроўні, заявіўшы афіцыйны пратэст. Трэба ж урэшце зразумець, што Рэспубліка Беларусь — самастойная дзяржава і па сацыяльна-эканамічным рангу стаіць вышэй за некаторыя іншыя дзяржавы свету. Але змагацца за сваё мы не можам, пакуль у нас не будзе прафесійнай асацыяцыі юрыстаў-міжнароднікаў, здольных фарміраваць законы суверэннай дзяржавы. А падмануць заўсёды магчыма, калі няма прававой абароны. Я не сумняваюся, што многія беларускія фірмы ад гэтага пацярпелі, бо мы дасюль не зацвердзілі на дзяржаўным узроўні свайго паўнамоцнага прадстаўніка-юрыста, які абараняў бы інтарэсы і асобных грамадзян, і цэлых карпарацый у іншых краінах свету. Сёння фірмы імкнуцца гандляваць напрасцяк, і гэта нармальна. І каб не ўзнікала падобных інцыдэнтаў, неабходна ўвесці абавязковае дзяржаўнае страхаванне грузаў на іншых тэрыторыях. Няхай гэта выльецца ў большыя выдаткі, затое будзе гарантыя захаванасці маёмасці.

Як я калісьці атрымаю свой беларускі пашпарт, так я павінен з ім атрымаць і гарантыі ад урада, якому я плачу падаткі. Гарантыі маёй абароны. А іх, дарэчы, мае любая «бананавая» рэспубліка свету. Толькі тады будуць паважаць нашу дзяржаву, кожную асобу ў ёй.

І апошняе, пра што баліць. З-за чаго, можна сказаць, я і атрымаў інфаркт на трэці дзень, як мы прыляцелі з Аб'яднаных Эміратаў. Адносіны да нашай дэлегацыі расіян, кіраўніцтва «Аэрафлота» канкрэтна. Мы даверыліся масквічам, якія паабяцалі выратаваць нашы экспанаты, пагрузіўшы іх у першую чаргу ў самалёт. Мала таго, запэўнілі, што творы мастацтва — у лайнеры. А калі высветлілася, што наш груз і не думалі ратаваць, цынічна падманулі зноў: далі распіску, што наступным рэйсам вывязуць яго у СНД, але слова не стрымалі. Ад каго заўгодна мог бы чакаць такога каварства, толькі не ад братоў-расіян! Дык няўжо ж і далей мы будзем жыць па драпежных законах?..»

**Нельга не пагадзіцца з думкай М.Абмёткі аб нашым чалавечым і дзяржаўным бяспраўі ў міжнародным бізнесе, аб нашай безабароннасці і некампетэнтнасці ў многіх аспектах дзейнасці.**
**Але ж, як адзначае Мікалай Канстанцінавіч, правы ўласніка на выставачныя экземпляры ні «Асіяімпекс», ні «Форвейз Карго» ніякім чынам не атрымлівалі і валодаць імі не могуць. І таму творы абавязаны вярнуць у рэспубліку. Аднак нельга не пагадзіцца і з довадамі спецыялістаў, з якімі давялося кансультавацца: пэўныя кантракты, дагаворы, пагадненні па выстаўцы Шарджа-ЭКСПО-92, выкананыя прадстаўнікамі «Беларусінторга», не ва ўсім адпавядаюць міжнародным стандартам падобнага роду дакументаў. Таму наўрад ці Міжнародны арбітражны суд, калі б і была ў прадстаўнікоў Беларусі магчымасць апеляваць да яго, узяўся б разбіраць гэтую справу.**
**І ўсё ж водгулле канфлікту не аціхае. Так, нас можна абвінаваціць у непрафесійнасці, некампетэнтнасці, нявопытнасці. Але ж перад намі — вопыт сусветнага грамадства ў абароне правоў чалавека і дзяржавы, у якой гэты чалавек жыве. І нам трэба змагацца за свае правы, адстойваць уласную годнасць. Адстойваць прафесійна. Сёння паўстае вострая неабходнасць у падрыхтоўцы кадраў, у прыватнасці, юрыстаў-міжнароднікаў. Час стварыць і свой Міждзяржаўны незалежны суд, здольны разглядаць спрэчкі паміж юрыдычнымі або фізічнымі асобамі краін, якія не ўваходзяць у склад СНД. Аднак гэта ўжо — тэма для нашага наступнага матэрыялу.**
**А сёння мы павінны дапамагчы вярнуць тое, што належыць нацыі.**

Людміла КРУШЫНСКАЯ.

# АПОШНІ КАРО

**Верагодна, мала хто з чытачоў «Культуры» ведае, што ў трыццаці пяці кіламетрах ад Брэста, у мястэчку Воўчын, 260 гадоў таму ў сям'і Панятоўскіх — тагачасных уладальнікаў сядзібы Стары Воўчын, нарадзіўся хлопчык, ахрышчаны імем Станіслава Антонія. Менавіта яму ў 1764 годзе выпаў гонар заняць каралеўскі пасад.**

**У воўчынскай сядзібе сваіх бацькоў Станіслаў Панятоўскі пражыў толькі першыя тры гады жыцця, аднак экс-каралю было суджана яшчэ вярнуцца ў Воўчын — праз 140 гадоў пасля смерці...**

**Пра гісторыю мястэчка, яго помнікі, якія захаваліся або страчаныя — цяпер ужо назаўсёды, пра раскопкі, што ладзіліся на тэрыторыі воўчынскага Троіцкага касцёла, пра пошукі астанкаў апошняга караля Рэчы Паспалітай і распавядаюць гісторык Святлана АДАМОВІЧ ды археолаг Алесь КРАЎЦЭВІЧ.**



## ВОЎЧЫН: РОСКВІТ І ЗАНЯПАД

Сёння невялікая, але не надта каб малая вёска Воўчын, што знаходзіцца недалёка ад упадзення рэчкі Пульвы ў Буг, мала чым адметная ад такіх жа сучасных вёсак, якіх поўна на Брэстчыне. А ў XVIII ст. сядзіба Воўчын, якая належала прадстаўнікам знакамітых родаў Чартарыскіх і Панятоўскіх, была адным з цэнтраў культурнага і палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай. Сюды прыязджалі вядомыя музыканты і прафесійныя палітыкі, гетманы і паэты, славутыя мастакі, міністры ды іншыя высокія госці. У воўчынскай рэзідэнцыі абмяркоўваліся і набывалі развязанне пытанні, якія тычыліся многіх бакоў жыцця Польшчы — аж да дзяржаўнага будаўніцтва, і, магчыма, няма выпадковасці, што менавіта тут у зімовы студзеньскі дзень 1732г. нарадзіўся Станіслаў Панятоўскі, будучы польскі кароль. І апошні.

Першыя ўспаміны пра мястэчка належаць да XVIст. Тады ў ім валадарылі Солтаны. У другой чвэрці XVIIст. новы ўладальнік маёнтка, Аляксандр Корвін Гасеўскі, ахвяраваў значныя сродкі на пабудову першага драўлянага касцёла, падмуркі якога і заклалі ў 1629 годзе.

Праз дзесяць гадоў вялікая воўчынская сядзіба была падзеленая Аляксандрам Гасеўскім паміж сынамі: стары Воўчын з фальваркамі перайшоў да старэйшага яго сына — Крыстафора, аднак Крыстафор неўзабаве памёр, і ўладальнікам усяго Воўчына зрабіўся другі сын Аляксандра — Вінцэнт Гасеўскі, дыпламат і прафесійны вайсковец. Пазней ён перадае сядзібу ў якасці пасагу старэйшай дачцэ Тэрэзе. Уласнікам дабра напачатку быў першы яе муж Юзаф Служка, потым другі — Казімір Сапега. Апошні перажыў сваю жонку і пасля яе смерці прадаў Воўчын Флемінгам. Але і яны нядоўга ім карысталіся: у 1720 г. сядзіба Воўчын разам з усімі пабудовамі і землямі перайшла да Чартарыскіх. З гэтае пары і пачынаецца час ягонага росквіту і вядомасці.

Казімір Чартарыскі і яго жонка Ізабэла, займеўшы Воўчын, распачалі будаўніцтва шыкоўнай рэзідэнцыі. І хутка маляўнічае мястэчка зрабілася ўлюбёным месцам сустрэч прадстаўнікоў многіх знакамітых і багацейшых родаў Рэчы Паспалітай.

Наступны ўладальнік сядзібы і мястэчка не толькі не парушыў складзеных традыцый, але памножыў іх і замацаваў. Станіслаў Панятоўскі — а гэта пра яго ідзе гаворка, не паходзіў з княжага роду, але, на думку сучаснікаў, з'яўляўся палітыкам еўрапейскага маштабу, чалавекам «адукаваным і шляхетным». Ён шмат зрабіў, каб палепшыць эканамічны стан воўчынскай сядзібы: купіўшы суседнія землі, значна пашырыў яе межы, зрабіў абмеры ўсіх палеткаў, лясоў, сенажацяў, пабудаваў сем млыноў, клапаціўся пра дабрабыт сваіх прыгонных.

Да пачатку 1730-х гадоў драўляны касцёл, фундатарам якога быў Аляксандр Гасеўскі, прыйшоў да занепаду, і Станіслаў Панятоўскі разам з жонкаю Канстанцыяй Чартарыскай ахвяравалі сродкі на пабудову новага. Дакументы паведамляюць нам, што напачатку планавалася пабудаваць драўляны касцёл, але блізкае суседства храма да шыкоўнай, шырока вядомай рэзідэнцыі змусіла фундатараў памяняць намеры. Першы камень у падмурак новага касцёла з прыгожай чырвонай цэглы быў закладзены 18 ліпеня 1729г. Зрабіў гэта брэсцкі архідыякан і намеснік суддзі Яноўскай генеральнай кансісторыі Уладзіслаў Суткоўскі.

Будаўніцтва касцёла працягвалася каля трох гадоў і да 1733г. было амаль скончана. Але цалкам пабудову бажніцы ажыццявіў ужо Міхаіл Чартарыскі, да якога ў 1738г. і перайшло мястэчка. У 1743г. адбылося асвячэнне касцёла пад назваю «касцёл Святой Троіцы». Акрамя касцёла ў Воўчыне дзейнічала праваслаўная царква: першы яе будынак быў драўляны і зроблены на сродкі Яраслава Солтана яшчэ ў 1586г. пад назваю святых Міколы і Юрыя. Пажары часта пашкоджвалі царкву, часам знішчалі зусім, але кожны раз вернікі на зноў сабраныя дабрачынныя грошы аднаўлялі яе, адбудоўвалі і асвячалі.

Па звестках 1791г. у мястэчку Воўчын было 13 хрысціянскіх, 37 габрэйскіх і казённых дамоў для фабрыкантаў. У цэнтры Воўчына знаходзілася каменная ратуша і каменныя гандлёвыя рады. Габрэйская школа была драўлянаю. Вядома таксама, што з 1792 па 1830 гг. у Воўчыне працавала суконная фабрыка —яна належала Мюльбаўру.

Чартарыскія валодалі воўчынскай сядзібай амаль сто гадоў. У 1822г. (па іншых звестках — у 1828г.) Канстанцін Чартарыскі прадаў яе, каб аплаціць даўгі. Воўчын перайшоў ва ўласнасць паноў Пуслоўскіх, якія пастараліся прывесці ў належны стан даволі збяднелыя на той час і састарэлыя пабудовы. Быў абноўлены сам палац, парамантаваны Свята-Троіцкі касцёл, а будынак былой ратушы перабудаваны ў грэка-каталіцкую царкву. У вопісе воўчынскай сядзібы, зробленым у 1834г., адзначаецца, што ўсе будынкі архітэктурнага ансамбля — каменныя і магутныя, англійскі парк засаджаны ў асноўным грабам ды ліпаю...

У 1892г. воўчынская царква, вернутая праваслаўным, была адрамантаваная: зроблены новы дах, пабудаваны купал, а праз два гады ўвесь пагост Мікалаеўскай бажніцы абнеслі цаглянай агароджай.

У палаца-паркавы ансамбль у Воўчыне акрамя палаца і касцёла Святой Троіцы ўваходзілі будынкі тэатра, аранжарэі, цяпліцы, паркавыя альтанкі, шматлікія гаспадарчыя пабудовы, а таксама двухпавярховы будынак архіва, дзе, адпаведна гістарычнаму паданню, у адным з пакояў 17 студзеня 1732г. пабачыў свет сын Станіслава і Канстанцыі Панятоўскіх — Станіслаў Антоній, будучы кароль Рэчы Паспалітай. Гэты будынак, праўда, ужо вельмі пашкоджаны, існаваў яшчэ на пачатку нашага стагоддзя.

Воўчынскі палац быў вельмі вялікі — у ім налічвалася 36 пакояў. У цэнтральнай частцы палацавы корпус быў пабудаваны з цэглы, яго бакавыя крылы — з дрэва. Прыезджыя госці звычайна размяшчаліся ў палацы або ў цагляных афіцынах, якія знаходзіліся злева і праваруч ад палаца. У афіцынах жылі таксама і слугі.

Праз парк, які займаў тэрыторыю 60 моргаў, быў пракапаны канал, які меў штучныя каскады і



# ...ЛЬ І РАДЗІВІЛ

іншыя прыстасовы, што надавалі яму непаўторную прыгажосць і захапленне. На жаль, цяпер ужо нішто не нагадвае пра цудоўныя колішнія пабудовы, багата аздобленыя ўсярэдзіне і звонку ляпным дэкорам у стылі позняга барока, і не знайсці гідратэхнічных умацаванняў дзівоснай прыгажосці.

Аўтар кнігі «Вяртанне караля» Аляксандра Згажэльска знайшла матэрыялы, якія сведчаць, што прыканцы XIXст. польская грамадскасць, аб'ядная жаданнем адрадзіць адзін з гістарычных і архітэктурных помнікаў Рэчы Паспалітай, звярнулася да ўрада Расійскай імперыі (па Трэцім раздзеле 1795г. гэтая частка тэрыторыі адышла да Расіі) з просьбаю дазволіць аднавіць палацава-паркавы комплекс XVIII ст., аднак ім у гэтым было адмоўлена.

У 1938г. труна з астанкамі пахаванага ў Санкт-Пецярбургу экс-караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага была перавезена ў Воўчын. Усё «мерапрыемства» адбывалася ў вялікім сакрэце, глыбокай ліпеньскай ноччу і, вядома, без адпраўлення належнага ў такіх выпадках рытуалу. Па асабістай ініцыятыве воўчынскага ксяндза Антона Чыжэвіча быў арганізаваны збор сродкаў на рамонт Троіцкага касцёла, у крыпту якога і была пастаўлена труна Станіслава Аўгуста. Але хутка праца спынілася: пачалася другая сусветная вайна...

Пасля вайны многія палякі, якія жылі ў памежных з Польшчаю раёнах, выехалі туды назаўсёды. Ксёндз Троіцкага касцёла, прыхапіўшы касцельныя дакументы і частку касцельнага скарбу, таксама пакінуў Воўчын. Па распараджэнню абласнога начальства касцёл быў зачынены, і будынак доўгія



дзесяцігоддзі скарыстоўвалі для калгасных патрэбаў — да таго часу, пакуль ад няшчаднай эксплуатацыі ні разу не рамантаваны будынак не прыйшоў да жахлівага стану. І як вынік — некалі цудоўны, багата аздоблены, надзвычай прыгожы божы храм, які гэтак беражліва захоўвалі некалькі пакаленняў уладальнікаў і прыхаджан, стаіць перад намі разрабаваны, разбіты і нікому не патрэбны...

Святлана АДАМОВІЧ.

## ДА НАС І РЭХА НЕ ДАЙШЛО...

У 1988 годзе ў Воўчын прыехала група з чатырох гарадзенцаў, даследчыкаў Міхася Ткачова, Аляксандра Мілінкевіча з сынам і мастака Уладзіміра Кісляга. А праз польскую прэсу пракацілася хваля публікацый. Паведамлялася, што на месцы пахавання апошняга караля Рэчы Паспалітай знойдзены кавалкі тканіны з вывай радавога знака Панятоўскіх. У вачах эмацыянальных палякаў вобраз Станіслава Аўгуста пачаў хутка набываць рысы пакутніка і ахвяры абставінаў. Яго ўжо не называлі здраднікам, а ўспаміналі мецэнацкія заслугі. Гарадзенцы — пачынальнікі ўсёй гэтай справы — атрымалі па польскаму ордэну. Адзін з іх, мастак Валодзя Кіслы, выказаўся трохі з іроніяй, трохі з сумам у тым сэнсе, што ў сваёй культуры ніколі нічога не заслужыш, дык хоць ад чужой — ордэн...

* * *

Праз дыпламатычныя каналы палякі рабілі захады перад савецкім бокам аб даследаванні і ўшанаванні месца пахавання свайго апошняга караля. Здаецца, нават на ўзроўні Ярузельскага і Гарбачова ўзнікла дамоўленасць аб выяўленні і пераносе ў Польшчу яго астанкаў. Меркаваннямі беларускага кіраўніцтва не цікавіліся, і мяне гэта ніколькі не дзівіць і не абражае. Занадта ўжо ў непрыгожай паставе варвараў, не памятаючых сваёй гісторыі, паўстаў беларускі бок. На касцёле, у якім быў пахаваны кароль, не тое што не было ахоўнай шыльды, помнік ператварылі ў склад хімічных угнаенняў і пасля таго, як абваліўся дах, закінулі зусім.

* * *

Вынікам таго велізарнага рэзанансу, што адбыўся вакол асобы караля, стала стварэнне сумеснай беларуска-польскай экспедыцыі па даследаванню месца пахавання і выяўленню астанкаў С.Панятоўскага. З нашага боку весці працы было даручана мне, польскай групай кіраваў загадчык аддзела археалогіі Дзяржаўнага музея гісторыі мастацтва на Вавелі (г.Кракаў) З.П'яноўскі.

У той час я працаваў загадчыкам аддзела археалагічных даследаванняў у Беларускім рэстаўрацыйна-праектным інстытуце і адпаведна атрымаў са сваёй групай заданне правесці даследаванні, неабходныя для рэстаўрацыі помніка. Патрэбна было вызначыць глыбіню залягання і стан падмуркаў касцёла, адшукаць рэшткі мураванай агароджы, даследаваць брамы ў гэтай агароджы, якія на паверхні зямлі не захаваліся. А яшчэ — раскапаць ганак, брукоўку дарожак ды ўсё астатняе, што звычайна робіцца ў такіх выпадках. Палякі намерываліся весці раскопкі непас-



рэдна на месцы пахавання.

* * *

У польскую групу акрамя кіраўніка З.П'яноўскага ўваходзілі супрацоўнік яго аддзела Я.Фірлет, архітэктар-рэстаўратар з Варшавы Е.Гаўлікоўская-Пішняк і трое рабочых, якія павінны былі ачысціць касцёл ад смецця і абваленых перакрыццяў. У складзе групы былі яшчэ кіроўца мікрааўтобуса і «пані рэдактар» А.Згажэльская, якая збірала матэрыялы для сваёй кнігі аб Панятоўскім пад назвай «Вяртанне караля» (кніга выйшла ў 1991 г.).

З нашага боку акрамя мяне працу вялі супрацоўнікі рэстаўрацыйнага інстытута архітэктар Ф.Селязнёў, геадэзіст М.Дзядзюля, фатограф В.Абчынец. Шурфы капалі рабочыя-рэстаўратары з брэсцкага ўчастка.

* * *

Гэта была першая і, відаць, апошняя мая экспедыцыя з такім высокім узроўнем матэрыяльнага забеспячэння. З Брэста, больш за 30 км, прыгналі вагончык-бытоўку. Кожную раніцу да нашага гатэля ў Брэсце хвіліна ў хвіліну падкатваў рафік, адвозіў усю каманду ў Воўчын і быў у маім распараджэнні ўвесь дзень да вяртання ў гатэль.

Зразумела, што і да спецыяльна падрыхтаванага абеду ў горад Высокае мы таксама дабіраліся з камфортам.

* * *

Працы на аб'екце пачаліся ў маі 1989 г. У першы дзень польскія калегі трымаліся з намі неяк халаднавата, але хутка кантакт наладзіўся, і мы засталіся добрымі сябрамі. Цэлымі днямі З.П'яноўскі і Я.Фірлет праводзілі ў крыпце, літаральна па лыжках перабіраючы там зямлю. Мы шуравалі вакол касцёла. Польскія калегі сталі лепш пра нас думаць, па ўсёй верагоднасці, пасля таго, як агледзелі шурфы, якімі мы даследавалі агароджу, што калісьці абрамляла касцёл. Кожны шурф, закладзены, здавалася б, наўздагад, на роўнай, зарослай травой пляцоўцы, абавязкова трапляў на рэшткі муроўкі агароджы, на яе кут або браму.

Мы не сталі раскрываць сваіх прафесійных сакрэтаў, бо ў нашай справе галоўнае — вынік.

На жаль, працавалі мы, не маючы папярэдняй інфармацыі ад гісторыкаў, таму поўнай нечаканасцю было адкрыццё надзвычай магутных па глыбіні залягання і плошчы падмуркаў на месцы адной з брамаў агароджы. Добра, што якраз прыехала гісторык аб'екта С.Адамовіч і развеяла нашыя недаўменні — сапраўды, у XIX ст. расейскія ўлады збудавалі тут вялікую браму, якая выконвала адначасова і ролю званіцы ператворанага ў царкву касцёла.

* * *

Працы закончыліся ў чэрвені. Пакуль рабочыя-палякі чысцілі касцёл, палякі-археолагі шмат чаго накапалі ў крыпце, знайшлі рэшткі каралеўскай труны, шматлікія кавалкі тканіны, якою была абабіта труна. На некаторых з іх вышыты арол з вывай на грудзях «цёлка» — радавога знака Панятоўскіх. Сярод знаходак шпора, фрагмент эпалеты, аскабалак шпагі. Але ніводнай каралеўскай косткі. Найбольш верагоднай мне ўяўляецца версія аднаго з адкрывальнікаў пахавання У.Кісляга, што пасля разрабавання касцёла і труны нейкі добрасардэчны чалавек перазахаваў астанкі апошняга нашага караля і вялікага князя ў іншае месца...



* * *

Падмуркі касцёла аказаліся трывалымі і надзейнымі, сцены моцнымі. Аб'ём рэстаўрацыйных прац у будучыні мусіць быць не вельмі вялікім, толькі пачынаць іх ніхто не спяшаецца.

Усе знойдзеныя рэчы і зямлю з крыпты павезлі да Варшавы. Мы засталіся са сваім інтарэсам — ніводзін беларускі музей нічога з таго пахавання не атрымаў. Раз'ехаліся ўдзельнікі экспедыцыі. У Польшчы патроху ацішыўся гоман вакол асобы караля, а да Беларусі ён увогуле не дайшоў.

Нам усё адно?! Зрэшты, да аб'яўлення нашай незалежнасці заставалася два гады...

Алесь КРАЎЦЭВІЧ.

*На здымках:*

1. Свята-Троіцкі касцёл у Воўчыне. Фота 20-х гадоў XX стагоддзя.
2. Мікалаеўская царква ў вёсцы Воўчын, зробленая з былой ратушы. Фота 20-х гадоў XX стагоддзя.
3. Фрагмент вышыўкі на тканіне, якою была абабіта труна Станіслава Панятоўскага.
4. Ля Троіцкага касцёла — група польскіх даследчыкаў і Алесь Краўцэвіч (сядзіць злева). Май 1989 г.
5. Рэшткі ганка ля ўваходу ў касцёл. Раскопкі Алеся Краўцэвіча, 1989 г.

**На пачатку XX стагоддзя Марынецці праспяваў гімн механізаванаму свету. З тае пары не спыняецца апалогія тэхнакратычнай цывілізацыі. Сярод яе найбольш вядомых прапагандыстаў амерыканскі філосаф і сацыёлаг Элвін Тофлер. Каб зразумець, наколькі вялікі ягоны аўтарытэт на Захадзе, згадаем толькі адзін прыклад. Калі тагачасны прэзідэнт ЗША Рычард Ніксан прачытаў яго футуралагічную кнігу «Сутыкненне з будучыняй», то адразу прапанаваў стварыць камісію, каб улічыць ідэі Элвіна Тофлера пры распрацоўцы канцэпцыі развіцця амерыканскага грамадства.**

**Да ўвагі чытачоў прапануецца фрагмент з кнігі Элвіна Тофлера «Трэцяя хваля».**




Элвін ТОФЛЕР

# НА ПАРОЗЕ БУДУЧЫНІ

*(урывак з кнігі «Трэцяя хваля»)*

Мы больш не знаходзімся там, дзе былі дзесяць гадоў таму; адбыліся змены, вынікі якіх мы яшчэ не ўсвядомілі. Сёння, за хаасам гэтых зменаў узнікае пэўная цэласнасць: фарміруецца будучыня.

У вялікім гістарычным зліцці гэтых плыняў змяненняў нараджаецца адна, ствараючы акіянічную Трэцюю хвалю* зменаў, якая з кожнаю гадзінаю набывае моц.

Гэтая Трэцяя хваля гістарычных зменаў уяўляе сабою не проста пашырэнне індустрыяльнага грамадства, але радыкальныя змены накірунку яго развіцця, а часам і адмаўленне таго, што існавала раней. Яна з'яўляецца не чым іншым, як поўнай трансфармацыяй, прынамсі, такой жа рэвалюцыйнай сёння, як індустрыяльная рэвалюцыя трыста гадоў таму.

Больш за тое: змены, што адбываюцца, — гэта не проста тэхнічная рэвалюцыя, гэта ўзнікненне цалкам новае цывілізацыі ў самым шырокім разуменні гэтага тэрміна.

Кожная цывілізацыя існуе ў біясферы і ўплывае на яе, рэагуючы станоўча ці адмоўна на лучнасць людскіх і прыродных рэсурсаў.

Кожная цывілізацыя мае сваю соцыясферу, якая складаецца з узаемазнітаваных інстытутаў.

Кожная цывілізацыя мае сваю інасферу — каналы камунікацый, па якіх рухаецца неабходная інфармацыя.

Кожная цывілізацыя мае ўласную сферу ўлады.

Да гэтага ж, кожная цывілізацыя мае супольнасць характэрных злучэнняў са знешнім светам — эксплуатацыі, сімбіёзу, міру ці вайны.

І, нарэшце, кожная цывілізацыя мае ўласную суперідэалогію — сінтэз навуковых светапоглядаў, якія кіруюць структурай яе поглядаў на рэчаіснасць і рэгламентуюць яе дзейнасць.

Трэцяя хваля — сёння гэта не аспрэчваецца — нясе рэвалюцыйныя і самападтрымальныя змены на ўсіх гэтых узроўнях адначасова. І як вынік гэтага — не проста заняпад старога грамадства, але і стварэнне падмуркаў новага.

Калі інстытуты Другой хвалі пачынаюць блага функцыянаваць, — расце злачыннасць, распадаецца класічная «нуклеарная» сям'я, надзейны яшчэ ўчора бюракратычны апарат не працуе, згортваецца сістэма медыцынскага абслугоўвання і небяспечна хістаецца прамысловасць, — мы бачым адно заняпад і разладжанасць вакол нас. Але сацыяльны заняпад — гэта выток новае цывілізацыі. У энергетыцы, тэхніцы, сямейным жыцці, культуры, мастацтве і многім іншым мы закладаем тыя непахісныя структуры, якія і будуць вызначаць галоўныя рысы гэтае цывілізацыі.

Сапраўды, мы можам уявіць гэтыя галоўныя рысы і нават у пэўнае ступені вызначыць сістэму іх узаемадачынення.

Цывілізацыя Трэцяй хвалі, што знаходзіцца сёння ў першапачатковым стане, з эканамічнага і тэхналагічнага пункту гледжання не толькі рэальная, але і — калі як след падумаць — можа падацца больш уладкаванай, чым тая, што існуе цяпер. І гэта надае нам упэўненасці.

Цывілізацыя Трэцяй хвалі, у вадрозненне ад папярэдніх, павінна даць (і дае!) прастору грандыёзнае разнастайнасці энергетычных крыніцаў — воднай, сонечнай, геатэрмальнай, прыліўнай, той, што ўтвараецца з біямасы, а ў далейшым — тэрмаядзернай і касмічнай, — іншыя крыніцы пакуль што цяжка нават уявіць. Пераход да новае, разнастайнае энергетычнае базы будзе даволі складаным... Але доўгатэрміновая перспектыва падаецца дастаткова разумнай — зрух ад цывілізацыі, што базуецца на адной энергетычнай крыніцы, да больш бяспечнай, што базуецца на іншых.** У рэшце рэшт з'явіцца цывілізацыя, якая будзе існаваць не за кошт тых крыніцаў энергіі, якія вычэрпваюцца, а на невычарпальных.

Цывілізацыя Трэцяй хвалі будзе існаваць на куды больш дыверсіфікаванай тэхнічнае базе, якая ўбярэ дасягненні біялогіі, генетыкі, электронікі, стварэнне прынцыпова новых штучных рэчываў, а таксама дзейнасць у космасе і пад вадою. Хаця некаторыя новыя віды вытворчасці будуць вымагаць большых энергетычных выдаткаў, большая частка прамысловасці Трэцяй хвалі будзе спланаваная для выкарыстання як мага меншае колькасці энергіі. Апроч таго, вытворчасць эпохі Трэцяй хвалі будзе не такой грувасткай і куды менш шкоднай з пункту гледжання экалогіі, як цяпер. Многае стане малааб'ёмным, простым у кіраванні; адыходы вытворчасці будуць выкарыстоўвацца ў якасці сыравіны.

Для цывілізацыі Трэцяй хвалі адным з галоўных відаў сыравіны, прытым невычарпальным, стане інфармацыя. З дапамогаю гэтага можна будзе знайсці замяннікі нават пры моцных хістаннях эканомікі...

Фармаванне новых метадаў вытворчасці і спажывання энергіі, новых відаў вытворчасці і спажывання інфармацыі паскораць рэвалюцыю ў галіне працы. Прадпрыемствы застануцца па-ранейшаму, але індустрыя Трэцяй хвалі не будзе больш падобная на тую, якую мы ведаем сёння, і колькасць людзей, што займаюцца ў багатых краінах цяжкай працай ля станка, будзе змяншвацца.

У цывілізацыі Трэцяй хвалі завод больш не будзе з'яўляцца мадэллю для іншых інстытутаў; ужо сёння многія заводы занятыя вытворчасцю дэмасафіцыраванай, іншым разам персаналізаванай прадукцыі. Яны грунтуюцца на перадавых кшталтах гэтак званае «проста-вытворчасці». Гэтая вытворчасць патрабуе куды менш энергіі, сыравіны, значна меншую колькасць запасных частак і кампанентаў, але гэта ўздымае вытворчасць на незвычайны ўзровень дызайну.

Безумоўна, многія вытворчыя кшталты будуць стварацца не рабочымі, а самімі спажыўцамі.

Тыя ж, хто будзе непасрэдна працаваць на заводах Трэцяй хвалі, стануць выконваць куды менш тупой і манатоннай працы, —у параўнанні з тымі, хто працуе на канвеерах Другой хвалі. Рабочыя змогуць працаваць у час, больш для іх зручны.

Працоўнае месца стане больш гуманізаваным, індустрыялізаваным і эстэтычным.

Заводы Трэцяй хвалі будуць існаваць па-за межамі мегаполісаў. Яны будуць куды меншыя ў параўнанні з сучаснымі, будуць мець невялікі адміністрацыйны апарат і карыстацца большай самастойнасцю.

Пры ўсім гэтым самай вялікай зменаю ў цывілізацыі Трэцяй хвалі стане, магчыма, перавод працы з заводаў ды іншых інстытутаў у кватэры рабочых і службоўцаў.

Натуральна, не ўсе віды працы могуць быць перанесены ў жыллё людзей. Але калі танныя камунікацыі заменяць дарагі транспарт, значная частка працоўнай сілы зойме месца ў сваіх кватэрах; на заводах застануцца адно тыя, хто будзе мець справу з непасрэднай вытворчасцю і апрацоўкай прадукцыі.

Я лічу, што дом набудзе вельмі сур'ёзную ролю ў цывілізацыі Трэцяй хвалі. Рост «прасьюмерызму»***, распаўсюджванне новых канцэпцыяў жылля (электроніка, катэдж, новыя арганізацыйныя структуры бізнесу, аўтаматызацыя і дэмасафікацыя вытворчасці) — усё гэта дае падставы бачыць у доме цэнтральную адзінку грамадства на парозе будучыні, з развітымі, а не паслабленымі эканамічнымі, медыцынскімі, агульнаадукацыйнымі і сацыяльнымі функцыямі.

Але малаверагодна, што адзін інстытут — хай нават дом —будзе адыгрываць такую ж ролю, як раней царква і завод. Грамадства, хутчэй за ўсё, будзе зарганізаванае як сетка, але не іерархія новых інстытутаў.

Гэта вымушае думаць, што будучыя карпарацыі не будуць узвышацца над сацыяльнымі інстытутамі. У цывілізацыі Трэцяй хвалі карпарацыі будуць лічыцца комплекснымі арганізацыямі, як гэта і мае быць, і будуць дамагацца здзяйснення многіх мэтаў адначасова, а не проста шукаць прыбыткаў і выконваць вытворчыя функцыі.

Канцэпцыя эфектыўнасці Другой хвалі, заснаваная на імкненні карпарацыяў перавальваць свае ўскосныя выдаткі на спажыўцоў ці падаткаплацельшчыкаў, — будзе перагледжана так, каб у разлік прымаліся нябачныя сацыяльныя, эканамічныя і іншыя выдаткі. «Эканамічная думка» — характэрная дэфармацыя свядомасці Другой хвалі — стане менш распаўсюджанай.

Людзі Трэцяй хвалі будуць мець іншы светапогляд (погляд на прыроду, прагрэс, эвалюцыю, час, прастору, матэрыю). Думкі не будуць больш грунтавацца на механістычных аналогіях: яны будуць вызначацца такімі тэрмінамі, як працэс, адваротная сувязь, адсутнасць раўнавагі.

Узнікнуць новыя рэлігіі, новыя погляды на ролю навукі, новыя канцэпцыі прыроды чалавека, новыя кшталты мастацтва —куды больш разнастайныя, чым у індустрыяльную эпоху. Масавая культура будзе развівацца да тых часоў, пакуль не складуцца новыя формы кампрамісаў групавых канфліктаў (тыя, што існуюць цяпер, грунтуюцца на прымітыўным уяўленні і цалкам неадэкватныя для грамадства, што мае высокую ступень разнароднасці).

Дыферэнцыяцыя грамадства азначае і змену ролі нацыянальнае дзяржавы — дагэтуль адной з галоўных моцаў стандартызацыі. Цывілізацыя Трэцяй хвалі будзе заснаваная на новым падзяленні ўлады. Яе традыцыйныя структуры не будуць мець такі ўплыў, як сёння, але іншыя інстытуты — транснацыянальныя карпарацыі, аўтаномныя суполкі і нават полісы (гарады-дзяржавы) будуць адыгрываць значную ролю...

Чаму адбываецца падобны прагрэс? Чаму старая Другая хваля так нечакана перастала працаваць?

Ніхто не ведае.

Нават сёння, трыста гадоў пасля, гісторыкі не могуць выявіць прычыну індустрыяльнае рэвалюцыі. Прыхільнікі тэхналагічнага дэтэрмінізму паказваюць на паравую машыну; эколагі —на вырубку брытанскіх лясоў; эканамісты — на хістанне коштаў воўны. Іншыя падкрэсліваюць ролю рэлігійных і культурніцкіх зменаў — Рэфармацыі, Асветніцтва і г.д.

Але дзве з'явы Трэцяй хвалі становяцца ўсё больш заўважныя. Першая — зрух у тон больш высокай дыверсіфікацыі грамадства ў межах свядомасці. Другая — часовае паскарэнне гістарычных працэсаў. Мы прызвычаіліся да малое разнастайнасці і павольнасці зменаў; цяпер жа людзі і інстытуты пастаўлены перад неабходнасцю быць падрыхтаванымі да вялікіх тэмпаў часавых зменаў. У выніку не ўсе могуць прыняць кампетэнтныя рашэнні. Тады і настае шок ад сутыкнення з будучыняй.

**Пераклад Марыны ХАМІЦКАЙ.**

---

* Пад Першай хваляй Тофлер разумее пераход чалавецтва ад даграрнага грамадства паляўнічых да аграрнае цывілізацыі; пад Другой хваляй — пераход да сучаснага індустрыяльнага грамадства (заўвага перакладчыка).

** Тофлер пісаў гэтыя радкі да Чарнобыльскай катастрофы (заўвага перакладчыка).

*** Зліццё функцый «вытворчасці» (to produce) і «спажывання» (to concome) — (заўвага перакладчыка).

# БЕЛЫ СНЕГ, БЕЛЫЯ СУМЁТЫ...

**Гутарку з мастаком Аляксеем МАРАЧКІНЫМ вядзе паэтка Галіна БУЛЫКА**

**—Аляксей Антонавіч, персанальная выстава — заўсёды падзея ў жыцці мастака. Гэта і падвядзенне пэўных вынікаў, і пачатак новага этапу творчасці. Як рыхтавалася Ваша персанальная выстава?**

—Да гэтай выставы я ішоў даўно. Пяць гадоў назад была наладжана мая выстава ў Полацку. А канцэпцыя сённяшняй выставы выспявала 2-3 гады. Наўмысна ў дадзенай экспазіцыі я не імкнуўся паказаць як мага болей твораў, бо многія выставы, якія ладзіліся апошнім часам у Палацы мастацтва, грашылі менавіта тым, што аўтар у сваім памкненні паказаць сябе як мага шырэй абцяжарваў гледача ўражаннямі, і



той апынаўся не ў стане высветліць, на што звярнуць увагу, на чым сканцэнтравацца. Таму мая выстава параўнальна невялікая. Мне хацелася паказаць не проста пэўную колькасць твораў, а стан душы: хто я сёння, куды іду?

**—Чаму Вы выбралі менавіта Мастацкі музей, а не Палац мастацтва?**

—Думку — зрабіць вялікую выставу ў Палацы мастацтва — я адверг адразу, таму што апошнім часам я вельмі востра стаў адчуваць тое, што называецца Сумленнем і Богам. Ёсць у жыцці знакі выбару. А Палац мастацтва для мяне — месца грахоўнае, бо пабудаваны ён на касцях, на спляжаных могілках ля касцёла Святога Роха. І дух там вітае нядобры... А Мастацкі музей, наадварот, асвечаны душамі тых творцаў, якіх ужо няма, але якія складаюць нашу спадчыну: Я.Драздовіча, М.Філіповіча, М.Тарасікава. Тыя сцены памятаюць і творы маіх сённяшніх паплечнікаў: У.Тоўсціка, У.Савіча, А.Ксяндзова... Яшчэ раней у музеі экспанаваліся карціны Гаўрылы Вашчанкі, які, дарэчы, таксама не ладзіў персанальную выставу ў Палацы мастацтва.

**—Выстава атрымала высокую адзнаку ў крытыкаў, пра яе многа пісалася як пра вялікую падзею ў культурным жыцці дзяржавы. Ці дае гэта Вам адчуванне «грунту па нагамі», правільнасці шляху?**

—Я лічу, што напрацаванае мастаком ці паэтам, ці кампазітарам, і ўмежанае крытыкамі ў нейкую канцэпцыю, у рэпліку: «Вось гэта — тваё, твой шлях», — робіцца ланцугом для творчасці. У мяне адзіны арыенцір, нязменны: дзіцячыя ўражанні, якія заўсёды будуць пасылаць імпульсы... Я — зімовы чалавек. Белы колер, срэбны колер мяне зачароўвае. Нарадзіўся я на Саракі, калі, згодна з легендай, прылятае сорак птушак, але калі яшчэ не вясна і ўжо не зіма. Акрамя таго, было ў мяне і другое нараджэнне — у снезе. Я тады ці троху ўжо хадзіў, ці яшчэ поўзаў. Сястра не прычыніла дзверы ў хаце, пакінула мяне аднаго, і я, босы, у адной кашульцы, вылез за парог і затачыўся ў сумёт — там мяне і завеяла. Ледзь знайшлі... Можа таму так многа зімовага ў маіх творах? Вось, напрыклад, у карціне «Хлопчык. Дарога ў школу», якую прысвяціў сваім аднакласнікам. Я збіраюся зрабіць варыянт гэтай працы і падарыць школе. Калі паеду на радзіму з гэтым падарункам, то пэўна будзе ўжо зіма...

**—Вы — адзін з самых пазнавальных па творчай манеры аўтараў. Але гэта выстава быццам спрачаецца з «пазнавальнасцю».**

—Сапраўды, мне часта кажуць: «Відаць почырк», а пасля гэтай выставы нярэдка даводзілася чуць: «Цябе і не пазнаць!» Я эклектычны мастак, калі мець на ўвазе эклектыку ў сэнсе формы. У мяне бывае зялёны перыяд ці, напрыклад, блакітны. Але самае страшнае для творцы, як мне здаецца, — эклектыка духу, зместу. Учора пісалі партрэты Леніна, а сёння — нацыянальных герояў. Учора — сіласныя вежы ды індустрыяльныя гіганты, а сёння —настраёвыя краявіды. Дзякуй Богу, што эклектыка духу мяне мінавала.

**—І па стылістыцы твораў, і па светапогляду Вас лічаць нацыянальным мастаком. Як удаецца Вам прымірыць эстэтыку з палітыкай?**

—Напрыканцы 70-х, калі мы з аднадумцамі збіраліся на падпольных выставах, у нашым асяродку выспявала ідэя нацыянальнай культуры, беларускай эстэтыкі. Арыенцірам быў светлы вобраз Лявона Баразны, які прыняў пакутніцкую смерць ад рукі забойцы. Сёння пры той палярнасці думак, што раз'ядноўвае наша грамадства, я не магу стаяць убаку. Чатыры гады назад, калі ўтвараўся БНФ, я быў у аргкамітэце. Зараз я з'яўляюся старшынёй камісіі БНФ па культуры. Гады працы ў БНФ не маглі не адбіцца на творчасці: я напісаў партрэты Зніча і З.Пазьняка, сацартаўскі твор «Вандэя»... Але калі ў мяне запытаюцца, кім я хачу застацца ў лёсе Беларусі — палітыкам ці мастаком — я адкажу, што хацеў бы застацца хаця б адным творам у сэрцах суайчыннікаў.

**—Нядаўна праходзіў XIV з'езд мастакоў Беларусі. Якія Вашы ўражанні ад яго?**

—Цяжкія ўражанні... У якой краіне творчы інтэлігент дазволіць сабе выйсці на трыбуну і з гонарам заявіць, што ён «прекрасно знает этот ваш язык, но умышленно на нем не говорит»?! Безумоўна, кожны сам вырашае, якой мовай паслугоўвацца. Але хто дае права абражаць нашу годнасць? Асабіста я ніколі б не вымавіў падобнае ў Маскве ці Санкт-Пецярбургу. Сёння, мне здаецца, перспектыва творчага саюза — гуртавацца вакол тых, каму дарагая нацыянальная культура.

**—Вы пішаце вершы. Што для Вас паэзія — скрыпка Энгра?**

—Паэзія — гэта найвялікшая духоўная праца. Гэта не тое, чым можна займацца, як ігрой на скрыпцы, у перапынках паміж пісьмом фарбамі. Я рэдка друкуюся, але, магчыма, у канцы жыцця збярэцца кніжка, ці нехта збярэ тое, што я напішу. У душы я вельмі люблю беларускую паэзію, здаецца, жыву разам з ёй, але гэта не мая прафесійная праца... Вершы — адтуліна для духу. Асабліва так было у 70-я, калі ўсім нам жылося надзвычай цяжка. Радкі, што пісаліся тады, я нікому не давяраў, адчуваў, што іх ніхто не прачытае. Вялікае натхненне прыходзіла да мяне і падчас вывучэння шматграннай спадчыны Язэпа Драздовіча —мастака, археолага, разьбяра па дрэве, астранома, паэта. Я зразумеў, што мастак, калі яму дадзена, мусіць выказвацца не адно пэндзлем. Але Драздовіча ведаюць найперш як мастака.

**—Ваш артыкул, прысвечаны жывапісу Заходняй Беларусі, у чацвёртым томе «Гісторыі беларускага мастацтва» я б хутчэй аднесла да эсэістыкі чым да акадэмічнага даследавання.**

—Так, гэта не чыста навуковая праца. Многіх са згаданых у ім я блізка ведаў. Напрыклад, даводзілася чытаць дзённікі П.Сергіевіча, сустракацца з ім. А аднойчы выпала ехаць разам з М.Сеўруком у цягніку. Усю дарогу ад Вільні да Мінска ён расказваў пра свайго настаўніка Ф.Рушчыца, і мне ўдалося запісаць той эмацыянальны аповяд. На жаль, нашы акадэмічныя мастацтвазнаўцы былі ідэалагічна зашораныя, успрымалі мастацтва ў аспекце сацрэалізму. Такім падыходам засланяўся магутны пласт людзей, што не ўкладваліся ў сістэму, гадамі не выстаўляліся. Шкада, што падобны падыход існуе дасёння.

**—Вы нарадзіліся ва Усходняй Беларусі, пісалі пра мастацтва Заходняй. Як Вам здаецца, ці не можа гэта «геаграфічная» розніца з цягам часу ператварыцца ў палітычную?**

—Я моцна адчуваю тры часткі Беларусі: Заходнюю, Усходнюю і Палессе. Магілёўшчына для мяне найбольш паганская па духу, найбольш спрадвечная. А Заходняя Беларусь — калі не вакно ў Еўропу, то вакно ў Адраджэнне. Маю на ўвазе не Гродзеншчыну, не каталіцызм, а Віленшчыну. Падчас вандровак я там заўсёдна знаходзіў друкі 20-30-х гадоў. Але ніколі — на Магілёўшчыне. Палессе ж — зусім іншая, неразгаданая планета па ўсім: строю, мове, характару. Няёмка заклікаць да безумоўнай унітарнасці, пэўна, неабходна будзе, адхрысціўшыся ад уплыву ўсходніх і заходніх суседзяў, з цягам часу стварыць на Палессі культурную аўтаномію.

**—Вы сказалі: «Адхрысціцца ад уплыву суседзяў». Як гэта можа адбывацца на практыцы?**

—Я, мусіць, жорсткі чалавек... Але каб навесці парадак у хаце, трэба яе спачатку зачыніць, чыста вымесці, а потым ужо і адчыняць для гасцей. Можа, тады падарожныя ўспомняць, што трэба зняць брудныя боты, і стануць паважаць гаспадароў? Першая ўмова нашага адраджэння — не рабіць з Беларусі прахадны двор. Вялікую ролю можа адыграць і нацыянальная рэлігія — уніяцтва. Праз духоўнасць люд адчуе, што ён — народ, і выступіць супраць д'ябла масавай культуры, які паглынае нацыю. Людзі ўжо сталі больш свядомыя, больш адукаваныя — прынамсі, палітычна. Калі яшчэ нядаўна ўсе «камяні» ляцелі ў бок дэмакратаў, то зараз большасць людзей зразумела, што пры ўладзе не дэмакраты, што ідзе некантралюемая прыхватызацыя ўсяго былымі апаратчыкамі. Калі на цяперашняй сесіі Вярхоўны Савет прагаласуе за легалізацыю камуністычнай партыі (КПБ), то, я лічу, гэта будзе крокам да грамадзянскай вайны, бо тутэйшыя камуністы — безнацыянальныя асобы ў адрозненне ад, напрыклад, нацыянал-камуніста Бразаўскаса, які пачуваецца літоўцам. Мяне глыбока трывожыць сітуацыя, якая складваецца ў дзяржаве. Усё больш адчуваецца знакаў, што шлях да ачышчэння будзе пралягаць праз ахвярнасць.

**—Вялікае Вам дзякуй за размову, творчых поспехаў і веры ва ўсё найлепшае.**

Фота Жанны МАЁРАВАЙ.

## *ГАЛЕРЭЯ*




У кагорце самаадданых людзей, высілкамі якіх ладзіцца адраджэнне нацыі, мы бачым Людмілу і Міхася Гатальскіх. Яны плённа працуюць у дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, і, нягледзячы на невялікія памеры твораў, зробленае імі звяртае на сябе ўвагу на кожнай выставе.

Не так многа можна прыгадаць мастакоўскіх дуэтаў, паміж якімі было б такое суладдзе ў жыцці і творчасці. Народжаныя і ўзгадаваныя беларускім Палессем, яны дагэтуль застаюцца шчыра закаханымі ў вёску, яе традыцыі і культуру. Кожнае лета мастакі выпраўляюцца ў творчыя вандроўкі па Беларусі, сустракаюцца з народнымі майстрамі, жывяцца ад невычэрпных крыніц народнай творчасці.

Яшчэ ў студэнцкія гады яны пачулі пошчак багдановічаўскай Пагоні, якая не магла не захапіць творча апантаных людзей, як, між іншым, і сама постаць Паэта. Менавіта пад знакам Пагоні яны змаглі па-новаму ацаніць вялікую спадчыну вядомых дзеячаў нацыянальнай культуры Ефрасінні Полацкай, Францішка Скарыны, Янкі Купалы, Якуба Коласа, што знайшло сваё адлюстраванне ў дэкаратыўных кампазіцыях у кераміцы і фарфоры. Гэтаксама ў дэкаратыўных кампазіцыях і на посудзе ўвасобілі мастакі гербы старажытных гарадоў Беларусі.

Людміла і Міхась Гатальскія належаць да тых мастакоў, якіх не спакусілі вабноты кан'юктуры, яны мэтанакіравана і паслядоўна працуюць на карысць нацыянальнага мастацтва, а значыць і будучыні свайго народа, сваёй незалежнай Бацькаўшчыны.

*Уладзімір ПРАКАПЦОЎ.*



# ПЕРАЗОВЫ

Шырока некалі на Беларусі быў распаўсюджаны такі вельмі важны момант вясельнай урачыстасці, як перазовы, ці перазоў, пярэзвы. Склалася так, што тлумачэнні гэтага паняцця ў розных мясцовасцях не заўсёды супадаюць. У адных выпадках перазовамі называлі вясельнікаў, г. зн. удзельнікаў вяселля (інакш — перазвянаў, перазыўшчыкаў), якія на наступны дзень пасля таго, як нявесту ўжо перавезлі да жаніха, прыходзілі да маладога. Сэнс тлумачэння часцей зводзіцца да таго, што бацькі маладой, сваякі і вясельныя госці як быццам адзываюць (ад слова зваць, клікаць), едуць нібыта ў пагоню за нявестай: адклікаць яе, выкупіць з няволі. Дарэчы, у некаторых мясцовасцях паняцці перазоў, прыданкі, ці прыдане, выступаюць як сінанімічныя (азначаюць адно і тое ж). Звычайна перазовы складаліся з бацькоў дзяўчыны, яе родзічаў і сваякоў і ўсіх ці большасці гасцей, якія былі на вяселлі ў маладой. Часцей яны з'яўляліся (прыходзілі, прыязджалі) усе разам. Зразумела, як і на працягу ўсёй урачыстасці, так і ў дадзены момант гучалі песні, жарты, досціпы, чуўся смех, панавала, адным словам, весялосць. Дзе-нідзе жаніх прывозіў бацькоў маладой, і ў гэтых выпадках, калі ён выпраўляўся за перазовам, яго ніхто не праводзіў, і знікаў ён непрыкметна. Астатнія госці дабіраліся да маладога, як хто мог.

Абавязкова хросны бацька нявесты нёс з сабой хлеб ці кавалак каравая, іншыя ж вясельнікі — ручнікі, абрусы і г.д., каб усё гэта развесіць у доме жаніха.

Перад тым, як трапіць у хату да маладога, перазвянам даводзілася пераадольваць пэўныя перашкоды. У час гасціявання і на адыходзе таксама спяваліся песні, і паўсюдна перазоў звяртаўся з просьбай да сватоў — г.зн. бацькоў, родзічаў маладога —клапаціцца пра маладую:

*А сваточак, ты ж галубочак,*
*Просім вас,*
*Каб не было нашай дзевачцы*
*Ганьбы ў вас.*
*Каб не была*
*А паветачка хатачкай,*
*Каб не была*
*А суседачка мамачкай...*

У адказ таксама гучалі песні. Абмяняўшыся пажаданнямі, перазоў у поўным складзе адыходзіў да дому.

Перазовамі, пярэзвамі ў некаторых выпадках называўся звычай перазываць, клікаць вясельнікаў да сябе. З аднаго боку, гэта было своеасаблівай дапамогай бацькам маладых, змяншаліся выдаткі на вясельную ўрачыстасць, а з другога — падкрэслівалася заможнасць, багацце роду. А калі ўлічыць яшчэ і такі момант, што з маладымі ў нядаўнім мінулым звязваліся ўяўленні (і гэта характэрна для многіх, калі не для ўсіх народаў) аб цудадзейных уласцівасцях маладых, якія спрыялі гаспадарчаму дабрабыту, заможнасці, павелічэнню багацця, ураджайнасці зямлі, ураджайнасці палеткаў, — ладу, адным словам, гаспадароў і іх гаспадаркі, то ў дадзеным выпадку гэты звычай можна разглядаць і як своеасаблівую просьбу, якая не выказваецца і не магла быць выказана словамі таго, хто запрашаў да сябе, заручыцца падтрымкай, спрыяннем тых сіл, здольнасцей, якія, па вераваннях, увасаблялі маладыя. Такі рытуал выконваўся як у нявесты, так і жаніха (у адпаведнасці з магчымасцямі роду). Звычайна гэта адбывалася наступным чынам. Пасля застолля хто-небудзь з родзічаў, са сваякоў, вясельных гасцей (хросныя бацькі, некаторыя вясельныя чыны) браў з вясельнага стала лусту хлеба ці кавалак пірага і запрашаў (пераводзіў) усіх да сябе ў хату. З той жа самай лустай ці кавалкам бяседа пераходзіла да наступнага, пакуль, нарэшце, не вярталася да бацькоў. У гэтым выпадку ў бацькоў маладых бралася гарэлка, а пачастунак выстаўляўся гаспадаром. Такі класічны, можна сказаць, рытуал перазоваў. Зразумела, маглі існаваць і іншыя варыянты пярэзваў, але асноўны стрыжань іх усё ж прасачыць можна.

А яшчэ перазовамі, пярэзвамі называўся звычай, калі бацькі маладога разам з маладымі наведвалі бацькоў маладой і бліжэйшых родзічаў. Праўда, у асобных мясцовасцях звычай гэты яшчэ называўся госці, гасціна, але сэнс і змест яго не мяняліся, хаця ў форме ягонай адрозненні назіраюцца.

Дзе-нідзе ў бліжэйшую нядзелю пасля вяселля бацька маладой збірае тых, хто быў на вяселлі ў маладой, ці адзін едзе да дачкі, якую забірае і прывозіць дахаты. Раней, да гэтага дня, дзяўчына, калі нават і магла быць патрэба, не мела права наведвацца ў бацькоўскую хату. Назаўтра прыязджалі маладыя са сваімі бацькамі, бліжэйшымі родзічамі, сваякамі, сватамі, некаторымі з вясельнікаў. Бацькі нявесты збіралі сваіх, хто быў на вяселлі, і гулянне працягвалася. Маладыя ад'язджалі разам з усімі пасля пэўнага часу і са свайго боку запрашалі прыехаць да сябе ў наступную нядзелю.

У некаторых мясцовасцях, калі бацька прыязджаў, то прывозіў да сябе ў хату не толькі дачку, але і зяця, якія начавалі там. А назаўтра ўжо з'яўляліся астатнія госці. Дзе-нідзе ў першую нядзелю пасля вяселля, наадварот, зяць едзе да бацькоў жонкі клікаць на «пярэзбукі», на якіх яны ўпершыню пасля вяселля сустракаюцца з дачкой. Бацькі маладой, у адпаведнасці з мясцовымі традыцыямі, першымі маглі прыехаць да маладых. Пры гэтым зяць выстаўляў бутэльку падфарбаванай у чырвоны колер гарэлкі, калі дзяўчына захавала цнатлівасць (а колер і сімвалізаваў непарушнасць нявесты), даваў яе маці рубель. Дзякаваў, такім чынам, роду маладой. Зразумела, адразу ж праяўлялася павага да роду дзяўчыны, пашана да іх. Радасць была адна на ўсіх.

З сабой тыя, хто ехаў на перазовы, бралі пірагі, мочаныя макам з мёдам, аладкі ў смятане, смажаніну і г.д. Дзе-нідзе пярэзвы адбываліся з абменам пірагамі, што азначала запрашэнне наведаць у адказ.

На перазовах адбывалася больш цеснае знаёмства паміж родамі (у дадзеным выпадку гэта не было галоўнай мэтай), бо рэдка дзе ў гэтым заключным моманце вясельнай абраднасці маглі прыняць удзел усе вясельнікі. Знаёмства адбывалася не толькі паміж членамі родаў, але і з іх гаспадаркай і гаспадарчымі магчымасцямі, у спрыяльных абставінах высвятляліся прафесійны, сацыяльны статус, завязваліся больш цесныя сувязі. Адбываліся першыя сустрэчы з любымі сэрцу дзецьмі, якія ўжо крыху прызвычаіліся адзін да аднаго, займелі нейкі вопыт. Гучалі парады, прапановы, дзяліліся меркаваннямі, уражаннямі. Спяваліся песні, ладзіліся скокі, было весела, але гэта была ўжо спакойная, сталая весялосць. Усё — і сам лад, і сам настрой, адпавядалі важнасці, сур'ёзнасці моманту. Знаёмства двух радоў сведчыла пра іх узаемадачыненні, пра клопат, гатоўнасць і абавязак прыйсці на дапамогу і маладым, і адзін аднаму.

Вось і ўсё тое найбольш істотнае, што хацелася сказаць і данесці да чытача пра гэты вельмі важны момант вясельнай абраднасці, сямейнага звычаёвага права.

У дадатак прапаную песні, якія спяваюць на перазовах у Крупскім раёне Мінскай вобласці.

**Алесь ЦІТАВЕЦ, фалькларыст.**

## *А, СВАТОЧАК, ТЫ Ж ГАЛУБОЧАК...*

На перазовах.

*А сваточак, ты ж галубочак,*
*Просім Вас,*
*Каб не было нашай дзевачцы*
*Ганьбы ў Вас.*
*Каб не была*
*А паветачка хатачкай,*
*Каб не была*
*А суседачка мамачкай,*
*Каб не стаяла*
*Усю ночачку пад акном,*
*Каб не ўцірала*
*Дробны слёзачкі рукаўком.*
*Паветачка*
*Ды не цёплая хатачка,*
*Суседачка*
*Ды не родная мамачка.*
*Да не будзе,*
*Не будзе рана будзіці,*
*Выйдзе на вулку,*
*Ды будзе судзіці.*
*А няўдала,*
*Наша нявехна, няўдала,*
*А раннюю,*
*Раннюю зару праспала.*
*А вячэрнюю,*
*А вячэрнюю драмала.*

(Запісаў А.В.Цітавец у 1986г. у в.Селішча Крупскага раёна ад Г.С.Цітавец, 1916г.н.)

## *А ЎСЯ Ж НАША РАДЗІНАЧКА Ў ДОМЕ...*

На перазовах.

*А ўся ж наша радзіначка ў доме,*
*Адна ж наша дзевачка ў чужыне.*
*А пойдзем мы да адведаем яе,*
*Ці такая дзевачка наша, як была.*
*Яна ў нас была, як роза*
*ў садочку цвіла,*
*А ў вас стала, як рута*
*ў гародзе звяла.*

(Запісаў А.В.Цітавец у 1986г. у в.Селішча Крупскага раёна ад Г.С.Цітавец, 1916г.н.)

## *МУРАГОМ ДАРОГА ТРУШОНА...*

На перазовах.

*Мурагом дарога трушона,**
*Сюды наша маладая ўвязёна.*
*Шчабячы, салавей, шчабячы,*
*Нам дарожачку укажы.*
*А ў тое сяло, дзе мёд п'юць,*
*На тое падвор'е, дзе нас жудуць.*
*Там баярачкі танцуюць,*
*Там нам вячэру гатуюць.*

* Кожны радок паўтараецца.

(Зап. А.В.Цітавец у 1986г. у в.Селішча Крупскага раёна ад К.А.Цітавец, 1930г. н.)

## *ЗАКРАКАЛА ШЭРА ВУТАЧКА НА МОРЫ...*

На перазовах.

*Закракала шэра вутачка на моры,**
*Заплакала красна дзевачка ў каморы.*
*—Зачым, засім мае радзіны*
*доўга нет:*
*Ці мяцеліца ім дарожачку й замяла?*
*А садзіся, й молад жанішка,*
*й на каня,*
*А працірай ім дарожачку й да двара,*
*А каб мая а радзіначка прыбыла,*
*Мая радзіна ж ні піць,*
*ні есці — пагуляць.*

* Кожны радок паўтараецца.

(Зап. А.В.Цітавец у 1986г. у в.Селішча Крупскага раёна ад А.М.Белай, 1916г. н.)

## *АДЛЁТКА, АДЛЁТКА НАША ДЗЕВАЧКА...*

На перазовах.

*Адлётка, адлётка наша дзевачка,**
*Адляцела ад нас далёка,*
*А за тыя бары шчырыя,*
*За тыя балоты топкія.*
*—А, братулькі мае родныя,*
*Бярыце сякеры вострыя,*
*Рассячыце мне шчыры бор,*
*А каб відны быў таткаў двор.*
*Сячыце, рубайце алешнік,*
*Каб відзен быў качаражнік.*
*Рассячыце мне елачкі.*
*Каб відна былі дзевачкі.*
*Рассячыце мне дубчакі,*
*Каб відна былі хлопчакі,*
*Рассячыце мне ўсё й дуб'ё,*
*Каб відна было ўсё баб'ё.*

* Кожны радок паўтараецца.

(Зап. А.В.Цітавец у 1985г. у в.Селішча Крупскага раёна ад А.М.Белай, 1916г. н.)



*Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы...*
**Фота Алеся ПЛЫТКЕВІЧА.**

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь



Адрас рэдакцыі: 220050, МІНСК (МЕНСК), вул.КІРАВА, 25, кв. 12. Тэлефон: 27-83-18

©
Фармат А3, Індэкс 63875
Агульны наклад 7282 Замова 2062
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом Друку".
Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.